# Сям'я і школа



1929 — год

№ 2

Год выданьня I.

Цана асобнага нумару 75 гр.

# Сям'я і Школа

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ І ПЭДАГОГІЧНЫ ЖУРНАЛ

Вільня Жнівень 1929 № 2.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9

## Праз беларускую ўрадавую школу—да апалячываньня.

6 лютага 1927 году тагачасны віленскі куратар п. Рыневіч запрасіў на паседжаньне адумыснае камісіі да спраў беларускае школы некалькі польскіх „экспэртаў" і прадстаўнікоў беларускага грамадзянства—А. Трэпку, Я. Станкевіча, І. Дварчаніна і А. Луцкевіча, каб даведацца іх пагляды на цэлы рад пытаньняў, зьвязанных з беларускім школьніцтвам. Беларускія культурныя работнікі ішлі на гэтае паседжаньне з вельмі недаверчывым настроем: аб гэтым тады-ж пісаў „Наш Голас" (№ 5 з 9 лютага 1927 г.), адзначаючы, што „учасьце беларусаў у працы камісіі трэба разглядаць, як доказ добрае волі іх працаваць над зьдзейсьненьнем дамаганьняў усяго беларускага народу (мець родную школу), хоць і без вялікае веры ў выніکі працы"...

На першым месцы, як падавала тая-ж газэта, стаяла справа шрыфту, якім маюць карыстацца школы пры вучэньні ў беларускай мове. Прадстаўнікі палякоў*), згаджаючыся, што польская ўлада ня можа гвалтам навязываць беларусам той ці іншы шрыфт (лацініку ці гражданку), усё-ж высказываліся ў тым духу, што трэба пачынаць навуку на лацініцы, а толькі мо' ў чацьвёртым годзе вучэньня знаёміць дзяцей з гражданкай (кірыліцай). Наадварот, прадстаўнікі беларусаў згодна баранілі той пагляд, што трэба пачынаць з гражданкі, бо лацінікі дзеці навучацца ўсё роўна, як пачнуць вучыцца польскае мовы.

Свае пагляды на гэткае пытаньне грамадзяне Трэпка, Луцкевіч, Дварчанін і Станкевіч супольна ўлажылі і падалі на пісьме на наступным паседжаньні камісіі 9-га лютага. У справе шрыфту яны стаялі на гэткім становішчы:

„Мы стаім на становішчы неабходнасьці ўжываньня ў школах ад пачатку навукі беларускае мовы — літараў так-званае „гражданкі", грунтуючыся — паміма ўсіх гістарычных успамінаў — на гэткіх падставах:

a) Вялізарная большасьць насяленьня, з увагі на рэлігію, а такжа з увагі на панаваньне ў газэтах, кніжках і наагул у беларускім друку «гражданкі", ведае яе, дык і паважная лічба дзяцей прыходзе ў школу, ужо ў некаторай меры пазнаёміўшыся з ёй. Дзеля таго ўвядзеньне ад пачатку вучэньня лацінікі выклікала-бы труднасьці пры знаёмленьні дзяцей адначасна з дзьвумя азбукамі, — тым балей, што ўжо ў 3-ім аддзеле дзеці былі-бы прымушаны знаёміцца ўжо з трэцім з чароду альфабэтам — польскім, які розьніцца ад беларускае лацінікі (беларускія літары č, š, ž, v, ŭ).

b) Лацініка фактычна займае дагэтуль у беларускім пісьменстве месца „рытуальнае" (каталіцкае) азбукі, ды гэтак углядаецца на яе менш асьвечаная частка беларускага народу.

c) Усе друкі, апрача вельмі нячысьленных (каталіцкія кніжкі і часопісі рэлігійнага зьместу), выходзяць дагэтуль толькі гражданкай, дык пазбаў-

*) Праф. Массоніўс, праф. Эрэнкрэйц і інш.

леньне дзяцей веданьня агульна-ўжыванага пісьма адсоўвае іх ад культурных здабычаў (у беларускай мове).

„Пераход у навучаньні на лацініку можа быць зроблены толькі тады, калі ўвесь беларускі народ праз свае кампэтэнтныя культурныя і кіраўнічыя ўстановы прынцыпова пастановіць перайсьці на лацінскую азбуку *).

„Знаемленьне дзяцей у народнай школе з лацінскім пісьмом, тасаваным да беларускае мовы, павінна распачынацца пасьля добрага знаёмства вучняў з падставамі польскага правапісу (ў 5 аддзеле).

„Аб зьмене знакоў азбукі, як і самае азбукі, могуць пастанаўляць толькі навуковыя ўстановы данага народу, — дзеля таго школы павінны ўжываць такіх знакоў пісьма, якія ўжываюцца дагэтуль, ці будуць уведзены ў беларускім пісьменстве“.

„Характэрна,—адзначае „Наш Голас,— што на паседжаньні камісіі 9-га лютага адзіны дагэтуль беларускі фронт у справе шрыфту (гражданкі) разьбіў прысутны ў той дзень кс. Станкевіч, які высказаўся за лацініку“. Але — дадамо ад сябе — і кс. Станкевіч не гаварыў аб польскім пісьме, а аб зрэформаванай беларусамі лацініцы — з знакамі č, š ž, v, ŭ.

Паўтараем, што беларускія культурныя дзеячы, прымаўшыя ўчасьце ў паседжаньнях камісіі, ня мелі веры ў карыснасьць сваей працы. І цытаваная ўжо часопіс, падаўшы тэкст пісанае заявы грам. Трэпкі, Луцкевіча, Я. Станкевіча і Дварчаніна, дадала да яе гэткую пэсымістычную ўвагу:

„Пагляды, высказаныя запрошанымі камісіяй асобамі, маюць пайсьці далей да міністэрства асьветы. Ці што з іх будзе прынята пад увагу,—даволі сумліўна...“

Газэта выявіла дар прадбачаньня. Яшче гарэй: тое, што сталася ў выніку ўсіх гэных нарад, робіць ураджаньне зласьлівых кпінаў польскага міністэрства асьветы над беларускім народам, над беларускім нацыянальным адраджэньнем, над імкненьнем беларускіх масаў да стварэньня нацыянальнае культуры ў роднай мове.

На Усепольскай Выстаўцы ў Пазнані міністэрства асьветы выставіла напаказ перад усім культурным сьветам доказ сваей „дбаласьці“ аб беларускую культуру. Гэта —беларускі лемантар, складзены апалячаным беларусам Любіч-Маеўскім; як удалося выясьніць, лемантар гэты міністэрства выдала сваім коштам і загадала прыслухаючым яму школьным уладам на мясцох увясьці ў-ва ўсе ўрадавыя беларускія і польска-беларускія народныя школы.

Дык што-ж?

А тое, што, выпускаючы гэты лемантар, міністэрства асьветы папросту прыступіла да выпаўненьня таго, проці чаго згодна пратэставалі ў успомненай на пачатку камісіі і польскія прафэсары, і беларускія культурныя дзеячы: міністэрства прыступіла да навязаньня беларускаму народу гвалтам, адміністрацыйным прымусам, польскага пісьма.

Ня думайце, што тут абмылкова ўжыта слова „польскага“ замест лацінскага. Імена польскае пісьмо праводзіцца ў гэным лемантары, з усімі яго адвечнымі перажыткамі cz і sz, якіх беларусы, ужываючы лацініку, выракліся ўжо чверць веку назад, ўвёўшы больш рацыянальныя спрашчэньні č і š. Гэтым сваім лэмантаром міністэрства асьветы вырашае за народ беларускі—без ягонае згоды—такое прынцыповае пытаньне, як выбар шрыфту, а, замяняючы больш паступовы зьбеларушчаны лацінскі шрыфт адсталым польскім, варочае беларусаў да часоў Марцінкевіча і Багушэвіча, да 80-ых гадоў мінулага сталецьця.

Міністэрства проста перачыркнула ўсе матывы і доказы віленскае камісіі, якія з пэдагагічнага пункту гледжаньня былі бясспорнымі. І няма ніякага сумліву, што міністэрства пры вырашэньні пытаньня аб шрыфце кіравалася выключна палітычнымі імкненьнямі, ня маючымі нічога супольнага з пэдагогікай. Імкненьні гэтыя лёгка выкрыць у сувязі з агульным курсам польскае дзяржаўнае палітыкі ў адносінах да беларусаў,

Ясна, што, ўводзячы ў школы для беларусаў выключна польскае пісьмо, міністэрства мае наўвеце чым хутчэй сьцерці тую мяжу, якая аддзяляе беларусаў ад польшчыны, ды якой зьяўляецца ў першы чарод ужываньне беларусамі свайго ўласнага, іншага, чым у палякоў, шрыфту. Навучаньне дзяцей у школах чытаць толькі папольску пазбаўляе іх магчымасьці чытаць усю

*) Як ведама, агульна-беларускі акадэмічны зьезд у Менскр гэткую прапазыцыю адкінуў. (Рэд.).

сваю красную і навуковую літэратуру, друкаваную гражданкай. А літэратура гэтая сягоньня ўжо багатая. Ня кажучы ўжо аб мастацкіх творах Купалы і Коласа, Багдановіча і Бядулі, Гарэцкага і Цішкі Гартнага, Гаруна і Аляхновіча — з старэйшага пакаленьня, кожын дзень прыносіць нам усё новыя і новыя творы такіх мастакоў слова, як Чарот і Зарэцкі, Арсеньнева, Дубоўка і Жылка, як Дудары, Александровічы ды цэлыя дзесяткі маладых тварцоў нашых літэратурных скарбаў, роўных творам старых Эўропэйскіх літэратур. А побач з гэтым з кожным днём узбагачываецца наша навуковая літэратура: адзін за адным выходзяць грубыя томы прац беларускіх вучоных, друкаваных Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам у Менску, Беларускай Акадэміяй Навук ды іншымі навуковымі ўстановамі Радавае Беларусі, аб цэннасьці якіх сьведчыць факт, што іх перакладаюць на Заходня-Эўрапэйскія мовы (—толькі што выйшаў у Нямеччыне пераклад кнігі праф. Карскага аб беларускай літэратуры). І ўсё друкуецца гражданкай. Дый усе школьныя падручнікі, якімі беларускае грамадзянства, напружаючы ўсе свае інтэлектуальныя і матэрыяльныя сілы, забясьпечыла народныя і сярэднія беларускія школы, надрукаваны гражданкай. Урэшце, і тыя пара дзесяткаў каталіцкіх рэлігійных выданьняў, што надрукаваны зрэформованай беларусамі лацінікай (свае вершы ксёндз Стэповіч друкаваў гражданкай!), — і тыя чытаць будзе трудна беларускім дзецям, навучаным выключна польскага пісьма. А замест усіх нашых культурных здабыткаў у слове, прыдбаных за апошнюю чверць веку, польскія „культуртрэгеры“ хочуць пакінуць беларускіх дзяцей пры... адным мізэрным „казённым лемантары!

Мала таго, што беларуская школа гэтак будзе пазбаўлена ўсіх падручнікаў, міністэрства асьветы адным росчыркам пяра хоча перачыркнуць і беларускую граматыку і самастойны беларускі правапіс, што выпрацоўваліся ў працягу дзесяткоў гадоў высілкамі усіх актыўных працаўнікоў на ніве беларускае культуры: яны-ж не датарнаваны да польскага пісьма.

Але мо' польскі урад, пазбаўляючы падрастаючыя пакаленьні беларусаў дасюлешніх культурных здабыткаў у беларускай мове, хоча нечым іншым абдарыць іх? О, так: урад хоча абдарыць нас... польскай літэратурай, польскай кніжкай, польскай культурай, ды гэткім шляхам абярнуць беларусаў у — „dobrych polaków“! Гэта-ж ясна, як Божы дзень; ясна, што выданьне беларускага лемантара польскім правапісам распачынае новую эру ў апалячываньні беларусаў праз „беларускую“ школу, эру, якую мы некалі бачылі ў царскай Расеі, калі для палякоў і літвіноў друкаваліся за ўрадавыя грошы малітвенікі ў польскай і літоўскай мове — расейскімі літарамі...

Паўтараецца старая гісторыя. Але, думаем, і канец польска-беларускіх лемантароў будзе такі самы, як гэных польска-расейскіх і літоўска-расейскіх малітвенікаў: „казённых“ лемантараў беларусы ня прымуць. І мы не сумляваемся, што беларускае арганізованае грамадзянства, бяз розьніцы партыяў і кірункаў, падыме свой голас пратэсту проці гэтага экспэрымэнту міністэрства асьветы.

Але мала пратэстаў, мала слоў: патрэбна жывое дзела, каб нашы нарастаючыя пакаленьні ня згубілі ключа да скарбаў роднае культуры. Ключ гэты — уменьне чытаць гражданкай. Раз урадавая школа выкідае гражданку з свайго ўжытку, дык бацькі, дык грамадзянства мусяць з'арганізаваць сваімі сіламі навучаньне дзяцей гражданкі. І тады тая полёнізацыйная акцыя, якую распачынае — праз „беларускую школу“—міністэрства асьветы, не дасягне сваей мэты.

**Ант. Луцкевіч.**

# З Таварыства Беларускае Школы.

Год мінае з тых памятных усім беларусам пад Польшчай дзён, калі — ў апошніх чыслах жніўня 1928 году — адміністрацыйная ўлада „завесіла“ адзіную нашу масавую культурна-асьветную арганізацыю— Таварыства Беларускае Школы. Улада абвінавачывала Таварыства ў тым, што яно займаецца не культурнай працай, а — „антыпаньствовай“ палітыкай.

Усе мы памятаем, што Таварыства, як культурная арганізацыя, зусім ня было вінавата ў тым, што яму закідалі; аднак, з увагі на тое, што ў склад цэнтральных органаў Т-ва ўваходзіў рад палітычных дзеячоў, (у тым ліку—паслоў Польскага Сойму, якія — па-за Таварыствам — займаліся палітыкай, бо на тое былі выбраны народам), — Галоўная Управа і Наглядная Рада ў поўным сваім складзе пастанавілі падацца ў адстаўку, каб зьняць з Таварыства абвінавачаньне „ў антыпаньствовай“ дзеяльнасьці і гэтак дабіцца „адвешаньня“ Т-ва. З гэтай-жа мэтай Гал. Управа і Нагл. Рада аддалі свае паўнамоцтвы выбранай імі Дачаснай Паўнамоцнай Камісіі, складзенай з трох ведамых культурных дзеячоў—школьных работнікаў Трэпкі і Шнаркевіча ды коопэратара Крука, раднага места Вільні. Гетай тройцы нельга ўжо было закінуць „антыпаньствовую“ работу, і ўлада згадзілася „адвесіць“ Таварыства.

Дзеяльнасьць Т-ва была ўзноўлена. Каля Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі згуртаваліся ўсе паважнейшыя культурныя работнікі. Аднак, знайшлася сярод сяброў Т-ва групка палітыкаў, якіх спакойная культурная праца Т-ва не здаваляла, ды якія хацелі выкарыстаць гэту культурна-асьветную ўстанову дзеля чыста-палітычных выступленьняў. Сустрэўшыся з рашучым адпорам Камісіі і ўсіх культурнікаў, групка гэная, маючы ў сваіх руках прэсу ды поўную свабоду агітацыі ў масах праз паслоў, пачала адкрытую барацьбу з культурнікамі, без дай прычыны абвінавачываючы іх у „здрадзе“ працоўных масаў, у „фашызьме“ і т. п.; на што апошнія ня мелі навет магчымасьці адказваць, бо сваей прэсы ня мелі. Таварыства, разьяданае ўнутранай калатнёй, замірала.

Раўналежна з гэтым адміністрацыйныя ўлады пачалі масава завешываць ды зачыняць гурткі і акружныя ўправы; спасярод апошніх — на агульную лічбу 11 — былі завешаны ці зусім зьліквідаваны ўладамі ажно 4, да таго-ж найбольш дзеяльныя. На колькіразовыя просьбы Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі аб дазвол склікаць Агульны Сход Т-ва, каб выбраць новыя кіраўнічыя органы згодна з Статутам, адміністрацыя ці то давала адмоўны адказ, ці, даўшы прынцыповую згоду, адцягала тэрмін Агульнага Сходу. А група палітыкаў карысталася з гэтага, каб абвінавачываць культурнікаў у іх нібы то жаданьні „захапіць уладу“ ў Т-ве ды ў іншых недарэчнасьцях.

Урэшце, частка сяброў старое Галоўнае Управы і Нагляднае Рады, якія год назад самахоць зракліся сваіх мандатаў і перакінулі ўвесь цяжар працы й адказнасьці за Таварыства на „тройку“ культурнікаў, абвясьціла, што яны бяруць назад сваё зрачэньне і ўзнаўляюць сваю дзеяльнасьць, дапоўніўшы нейкім спосабам, не прадугледжаным у Статуце, свой склад новымі сябрамі. На чале ўзноўленае Галоўнае Управы стануў грам. Фэлікс Стэцкевіч. Аднак, з увагі на тое, што гэткае ўзнаўленьне і ўкамплектаваньне кіраўнічых органаў Т-ва ня было згодна ані з Статутам, ані з агульнымі правіламі, абязываючымі ў Польскай дзяржаве, адміністрацыя адмовілася прызнаць іх законнымі кіраўнікамі Т-ва. І стварылася такое палажэньне: частка гурткоў і акружных упраў Т-ва пайшлі за гэтымі неправамочнымі Галоўнай Управай і Нагляднай Радай, ды за гэта былі перасьледаваны адміністрацыяй, ня могучы працаваць; другая частка, падтрымліваўшая сувязь з Дачаснай Паўнамоцнай Камісіяй і групай культурнікаў, цярпела такія-ж рэпрэсіі і — таксама не магла працаваць. І жыцьцё ў Т-ве з кожным днём усё балей замірала, адбіваючы ў людзей наагул усялякую ахвоту да грамадзкае працы і веру ў моц і сілу грамадзкае арганізацыі.

Урэшце, Дачаснай Пацнамоцнай Камісіі ўдалося-ткі дабіцца дазволу на Агульны Сход Т-ва, які быў вызначаны на 9-е ліпня с. г. Група палітыкаў, якая думае, што чым балей народ зазнае прыкрасьцяў ад адміністрацыі, тым большая будзе адпорная сіла яго, — пачала агітаваць (карыстаючыся павагай пасольскага імя), каб на гэты легальны зьезд дэлегаты ня ехалі, ды каб

Т-ва, ня маючы легальных органаў, было ўрадам зьліквідавана. Аднак, у масах аказаўся зусім іншы настрой, і яны на заклік да бойкоту не адгукнуліся так, як таго спадзяваліся ініцыятары яго. На Агульны Сход, на які ніводзін з палітыкаў не зьявіўся, сабралася больш сяброў, чым вымаганая статутам чацьвертая частка правамоцных учасьнікаў Сходу (замест 15-цёх — ажно 23).

Агульны Сход, разабраўшыся ў створаным палажэньні, у прынятых аднадушна рэзалюцыях высказаў сваю рашучую волю, каб дзеяльнасьць Т-ва з культурна-асьветнае не ператваралася ў палітычную. І, карыстаючыся гэткім настроем зьезду, павадыры культурніцкае групы мелі поўную магчымасьць атрымаць мандаты на далейшае кіраваньне Таварыствам. Аднак, яны разумелі, што выбар новае Галоўнае Управы і Наглядняе Рады зьяўляецца немагчымым пры істнаваньні ўзнавіўшых сваю дзеяльнасьць старых, яўна байкатаваўшых легальна скліканы іменна дзеля выбараў Агульны Сход: гэта павяло-б толькі да стварэньня двух канкуруючых цэнтраў, істнаваньне якіх было-б прычынай развалу знутра тых арганізацыяў Т-ва, якія йшчэ неяк захаваліся, ня гледзячы на страшна цяжкія абставіны.

І тут культурнікі йшчэ раз сцьвярдзілі перад беларускім народам, што яны змагаліся з палітыкамі не за ўладу ў Т-ве, а за тое, каб Т-ва было захавана дзеля культурнае працы: маючы поўную магчымасьць „захапіць“ гэту ўладу, культурнікі самахоць адмовіліся ад яе, запрапанаваўшы Агульнаму Сходу, каб ён улегалізаваў узнавіўшуюся старую Галоўную Управу і Наглядную Раду ды гэтак палажыў канец палажэньню, якое няўхільна мусіла-б давясьці да загубы Таварыства. Культурнікі публічна заявілі: няхай лепш кіраўніцтва Т-вам будзе ў неадпаведных руках, але каб Таварыства далей істнавала. І Сход, згодна з прапазыцыяй свайго старшыні, грам. Луцкевіча, выбраў увесь склад неправамоцных Гал. Управы і Нагл. Рады, не ўваходзячы зусім у ацэнку адпаведнасьці ці не адпаведнасьці іх сяброў. Гэтак пагроза ліквідацыі Т-ва праз палітыку „нелегальнасьці“ кіраўнічых органаў яго — адпала.

Гэта — вялікі крок наперад на шляху да аздараўленьня жыцьця Т-ва. „Палітыкі“ ня могуць цяпер апраўдываць перад масамі сваю бяздзеяльнасьць на нашым культурным фронце — пустымі гутаркамі аб нібы-то перашкодах з боку „фашыстаў“, іменем якіх былі ахрышчаны ўсе культурнікі. І, калі і далей гуртком Таварыства—замест культурнае стравы—будзе насылацца адно зьвяга, адно абліваньне гразёй кожнага, хто заклікае масы да самаарганізацыі на груньце культурна-асьветнае працы, — дык масы здолеюць, як сьлед, ацаніць гэткую дзеяльнасьць і на першым-жа Агульным Сходзе патрэбуюць справаздачы ў тых, хто стаіць сягоньня на чале Таварыства.

Згодна з пастановай Агульнага Сходу, ніжэй друкуецца поўны пратакол Сходу.

## Пратакол Агульнага Сходу Т-ва Беларускае Школы 9 ліпеня 1929 г.

Сход адчыняе ў 10 гадзін 45 м. сябра Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі грамадзянін Трэпка пры 23 дэлегатах: Шнаркевіч Язэп, Александар Данілевіч, Язэп Кунавіч, Александар Антановіч, Язэп Пасюкевіч, Пётра Русак, Міхал Чатырко, Аўген Сьцепанюк. Радаслаў Астроўскі, Мікалай Селіванчык, Алёна Сакалова, Ігнат Мятла, Антон Луцкевіч, Янка Станкевіч, Александар Міхалевіч, Антон Трэпка, Кастусь Хадзінскі, Лявон Шчасновіч, Альбэрт Мільлер, Аляксандар Коўш, Уладзімір Манкевіч, Александар Уласаў, Сьцяпан Шчыглінскі.

За Старшыню Сходу выбіраецца грам. Антон Луцкевіч, у склад Прэзыдыюму выбраны: Антановіч Александар (Вялейскі пав.) і Данілевіч Александар (Наваградзкі пав).

Згодна з парадкам дня выбіраецца мандатная Камісія ў складзе: Шнаркевіч Язэп, Антановіч Александар і Чатырко Міхал. На час працы мандатнае Камісіі абвяшчаецца перарыў.

Пасьля узнаўленьня паседжаньня грам. Чатырко дакладывае вынікі працы мандатнае Камісіі. Камісія сьцвердзіла, што, згодна са статутам Т-ва, правамоцных сяброў Агульнага Сходу можа быць 60 (§ 31), а дзеля правамоцнасьці Агульнага Сходу вымагаецца прысутнасьць, прынамсі, аднэй чвэрці іх (§ 33), інакш кажучы — ня менш 15. З прычыны таго, што ў Сходзе прымае учасьце 23 асобы, патрэбны кворум ёсьць. Мандатная Камісія выказвае свой жаль, што некаторыя Акружныя Управы сваіх дэлегатаў зусім не прыслалі.

Даклад Мандатнае Камісіі прымаецца Сходам.

Старшыня Луцкевіч падае прапазыцыю, каб быў перастаўлены парадак далейшых пунктаў павесткі, а іменна: каб ураз-жа прыступіць да справы выбараў Нагляднае Рады і Галоўнае Управы. Прапазыцыя матывуецца тым, што ў сувязі з пэўнай агітацыяй некаторыя з дэлегатаў прыехалі на Сход з тым перакананьнем, што тут мае адбыцца барацьба з „фашыстамі“, якія быц-

цам хочуць гвалтам захапіць у свае рукі кіраўніцтва Т-вам. Вось-жа, каб гэтакае чаканьне барацьбы не адбілася на ходзе Сходу, трэба перш за ўсё скончыць справу з выбарамі Цэнтральных Уладаў Т-ва.

Прапазыцыя прымаецца аднагалосна.

Старшыня ўносіць у справе выбараў гэтакую прапазыцыю:

„Прымаючы пад увагу:

1) што былая Галоўная Управа пад Старшынствам грам Ф. Стэцкевіча і Наглядная Рада Т-ва Беларускае Школы узнавілі сваю дзейнасьць і папоўнілі свой склад, ня выпаўніўшы ўсіх адносных вымаганьняў як статуту Т-ва, так і агульных правілаў,

2) што трываньне такога стану робіць немагчымай легальную працу Т-ва і вядзе няўхільна да ліквідацыі самага Т-ва,

3) што перавыбары Галоўнае Управы і Нагляднае Рады пры стварыўшыхся ненармальных адносінах у лоне Т-ва могуць выклікаць непажаданую і ня менш пагражаючую істнаваньню Т-ва ўнутраную калатню сярод сяброў—Агульны Сход Т-ва, склікаеы 9-га ліпеня 1929 г. Дачаснай Паўнамоцнай Камісіяй, пастанаўляе:

Не ўваходзячы ў ацэнку паасобных сяброў узноўленае Галоўнае Управы і Нагляднае Рады і кіруючыся адзінай думкай захаваць Т-ва ад ліквідацыі яго, — выбраць у Галоўную Управу і Наглядную Раду ўвесь цяперашні склад гэтых органаў на час да скліканьня чарднага Агульнага Сходу, які павінен адбыцца ў магчыма хуткім часе".

На пытаньні сяброў Сходу Старшыня падробна выясьняе утварыўшаеся ненармальнае палажэньне, пры якім узнавіўшая сваю дзейнасьць старая Галоўная Управа і Наглядная Рада ня прызнаюцца адміністрацыйнымі уладамі, а выбар зараз зусім новага складу іх пагражае стварэньнем двух канкуруючых цэнтральных органаў, што гэтак сама загубіць Т-ва, як ужо згублены такім-жа спосабам Беларускі Нацыянальны Камітэт.

Высказваючыся крытычна аб асобах, якія уваходзяць ў склад гэтых органаў, грам. Луцкевіч кажа, што лепш каб істнавала легальнае кіраўніцтва хоць і з людзей не па сэрцу, чым каб Т-ва развалілася.

З розных бакоў раздаюцца пытаньні аб складзе гэных ворганаў, якін маюць выбірацца Сходам. У гэты мамэнт прадстаўнік адміністрацыйнае улады зварочваецца да Старшыні Сходу з просьбаю зрабіць перарыў, бо ў яго ёсьць сумліў, ці можа ён дапусьціць, каб легальны сход зацьвярджаў пастановы нелегальнага, адбытага 19-га траўня г. г. Старшыня выясьняе, што Галоўная Управа і Наглядная Рада узнавіліся не 19 траўня, а шмат раней, аб чым улада была паведамлена. Усё-ж абвяшчаецца перарыў.

Пасля перарыву прадстаўнік адміністрацыйнае улады сьцвярджае на падставе прывезеных ім актаў Т-ва з Староства, што выясьненьне Старшыні было правільнае, — Сход узнаўляецца без перашкодаў.

Чытаецца асабовы склад Галоўнае Управы і Нагляднае Рады:

Галоўная Управа: 1) Старшыня Фэлікс Стэцкевіч, Сябры: 2) Марцінчык Мікалай, 3) Кэпэль Мітрафан, 4) Пяткевіч Міхал, 5) Дварчанін Ігнат, 6) Валынец Флегонт, 7) Шырма Грыгор, 8) Пяткун Пётр, 9) Гаўрылік Язэп, 10) Грэцкі Язэп, 11) Крынчык Павал, 12) Кізевіч Філіп, кандыдаты: Татарын Серафім, Кузьмін Сымон, Астапчык Мацей, Урбан Юльян; Наглядная Рада: 1) Лябецкая Алёна, 2) Ламашэвічанка Надзея, 3) Саковіч Юльян, 4) Рэшатаў Уладзімір, 5) Астравецкі Аляксандар.

Рэзалюцыя грам. Луцкевіча ўсімі прысутнымі сябрамі Сходу пры адным устрымаўшымся, прымаецца і гэтак Цэнтральныя органы Т-ва лічацца выбранымі ў паданым вышэй складзе.

Сход пераходзе да дакладаў з месц. Цэлы рад сяброў зьезду (Чатырка, Антановіч і інш.) малююць вельмі цяжкія варункі беларускае культурнае працы ў сувязі з адміністрацыйнымі рэпрэсіямі і масавымі зачыненьнямі і завешваньнямі Гурткоў і Акружных Управаў Т-ва. Грам. Чатырка, прапануе каб Сход далучыўся да пратэсту процiў рэпрэсіяў адміністрацыі у адносінах Т-ва, вынесенага Дачаснай Панамоцнай Камісіяй 6-га траўня г. г. (пратакол паседжаньня Дачас. Паўн. Кам. № 3) і каб прыняў наступную пастанову:

„Далучаючыся да пратэсту Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі з 6-га траўня 1929 г. (пратакол № 3), Агульны Сход пастанаўляе: — даручыць новазарганізованай Галоўнай Управе зьвярнуцца да адпаведных уладаў аб адчыненьні тых Акружных Управаў і Паасобных Гурткоў, якія былі ці то зачынены, ці часова завешаны".

Рэзалюцыя прымаецца ўсімі галасамі пры 2-х устрымаўшыхся.

Грамадзянін Уласаў гаворыць аб палажэньні б. Радашкоўскай Гімназіі і аб ладжаных ім аграномічна-коопэрацыйных курсах.

Грам. Антановіч і грам. Луцкевіч уносяць рэзалюцыі ў сувязі з унутранымі неладамі ў Т-ве, якія прымаюцца з некаторымі зьменамі ў гэтакай рэдакцыі:

„Агульны Сход Т-ва Беларускае Школы, стоючы на тым становішчы, што Т-ва павінна выпаўняць выключна культурныя заданьні, арганізуючы беларускія працоўныя масы дзеля падняцьця ўласнымі сіламі свайго культурнага роўня, рашуча высказваецца процiў усякіх спроб ператварыць культурную дзейнасьць Т-ва ў дзейнасьць палітычную.

Гэтая рэзалюцыя прымаецца ўсімі галасамі пры 2-х устрымаўшыхся.

Рэзалюцыя грам. Антановіча:

„Прымаючы пад увагу, што гэтак званыя „рэзалюцыі Агульнага Сходу Т-ва Беларускае Школы з 19 траўня г. г.", прынятыя і апублікаваныя групай дэлегатаў, укрыўшых свае прозьвішчы, зьмяшчаюць у сябе сьвядома няпраўдзівыя інфармацыі аб дзейнасьці Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі і крыўдныя беспадстаўныя закіды паважаным культурным працаўнікам, — Агульны Сход сьцьвярджае, што гэтыя „рэзалюцыі" не абавязваюць Т-ва Беларускае Школы і ляжаць цалкам на адказнасьці аўтараў іх".

Гэтая рэзалюцыя прымаецца ўсімі галасамі пры 3-х устрымаўшыхся.

Сход пераходзіць да выслуханьня справаздачы сяброў Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі Грам. Трэпкі і Шнаркевіча. Грам. Трэпка ў сваёй прамове паміж іншым зачапляе пытаньне аб сяброўскіх складках, якія блізка зусім спыніліся за апошнія часы. Дакладчык адзначае, што вёска ня раз выяўляла сваю ахвярнасьць на грамадзкія патрэбы, трэба толькі разьвіваць агітацыю.

Старшыня, характэрызуючы дзеяльнасьць Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі, прапануе выказаць ёй падзяку ў гэтакай рэзалюцыі:

„Прымаючы пад увагу самаахвярную шчырую працу Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі ў кірунку захаваньня Т-ва ад поўнага разгрому яго, ведзеную пры нязвычайна цяжкіх варунках, — Агульны Сход пастанаўляе:

„Выказаць сябром Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі грам-нам Антону Трэпцы, Язэпу Шнаркевічу і Кузьме Круку шчырую падзяку за іх стойкасьць і панесены труд“.

Рэзалюцыі прымаюцца дружнымі воплескамі ўсімі прысутнымі на Сходзе.

Сход пераходзе да чарговага пункту павесткі: да праграмы далейшае працы. Падаюцца паасобныя прапазыцыі, як то: грам. Луцкевіча аб патрэбе закласьці завочны (корэспондэнцыйны) народны унівэрсытэт; грам. Сакаловай—аб арганізацыі ясьляў для дзяцей і дзіцячых садоў: грам. Уласава — аб тым, каб Галоўная Управа ўзяла на сябе арганізацыю агранамічна-коопэрацыйных курсаў у Радашкавічах, падгатоўку якіх, распачаў ён, Уласаў.

Згодна з прапазыцыяй грам. Чатыркі, Сход даручае Прэзыдыюму магчыма шырэй распубліковаць пастановы і ход адбытага Агульнага Сходу Т-ва.

У канцы грам. Чатырка зварачаецца да удасьнікаў Агульнага Сходу з заклікам дапамагчы Наваградзкай Гімназіі складаючы і зьбіраючы ахвяры на пабудову ўласнага будынку пад гімназію.

Старшыня абвяшчае, што пасьля зачыненьня Сходу падпісныя лісты будуць паложаны на прэзыдыяльным стале.

Грам. Шнаркевіч зварачаецца да ўсіх сяброў Т-ва, адзначаючы неабходнасьць весьці ўсьцяж змаганьне за беларускую урадовую школу — шляхам арганізацыі і ў сёлетнім годзе масавага падаваньня дэкларацыяў, прадугледжаных у законе 31 ліпеня 1924 году. Усе бляпкі і інструкцыі можна атрымаць у Галоўнай Управе.

Старшыня сьцвярджае, што ўся павестка дня вычарпана, апрача пункту аб аглядзе Музэю імя Івана Луцкевіча, на што ўжо позна, і зачыняе Сход ў 15 гадзін.

Старшыня Агульнага Сходу
(—) **Ант. Луцкевіч**

Сябры Прэзыдыюму
(—) **Александар ДаніЛевіч**
(—) **А. Антановіч**

За згоднасьць з арыгіналам:
(—) **Язэп Шнаркевіч**

# ПАСТАНОВА

## Дачаснай Паўнамоцнай Камісіі Т-ва Беларускае Школы 6 траўня 1929 г. (прат. № 3) з прычыны зачыняньня і завешываньня Акружных Упраў і Гурткоў Таварыства Беларускае Школы ў Слонімскім, Баранавіцкім і Наваградзкім пав. адміністрацыйнымі ўладамі.

„Азнаёміўшыся з мотывамі прымаючага характар масавага зачыняньня Аддзелаў Таварыства Беларускае Школы, гэта значыць Гурткоў і Акружных Упраў у Слонімскім, Наваградзкім і Баранавіцкім паветах, Дачасная Паўнамоцная Камісія пратэстуе проці зачыненьня Гурткоў і Акружных Упраў адміністрацыйнымі ўладамі.

Раней матывамі зачыненьня, на падставе распараджэньня Гэнэральнага Камісара Усходніх Земляў ад 25 верасьня 1919 г., выстаўляліся небясьпека публічная і інкрымінаваньне (прыпісьваньне) паасобным сябром Упраў, што яны займаюцца палітычнымі справамі. Цяпер адміністрацыйныя ўлады зачыняюць Акр. Упр. і Гурткі без паданьня матываў, апіраючыся толькі на распараджэньне Міністра Унутраных Спраў ад 11 лістападу 1928 г. (Dz. U. R. P. Nr 93 poz. 828 § 3) якім надаецца права Ваяводам зачыняць розныя Таварыствы і арганізацыі. Між іншым у апошнія часы зачыняным Гуртком ставіцца ў віну неправідловае вядзеньне спраў і рахунковасьці. Гэтыя матывы Дачасная Паўнамоцная Камісія ўважае за недастатачныя для ліквідацыі культурна-асьветных асяродкаў. Дзеля папраўленьня рахунковасьці даволі было-б толькі папярэдзіць аб упарадкаваньні рахунковасьці Гуртка, або зьвярнуць на гэта ўвагу Акружнай ці навет Галоўнай Управы. Таксама Дачасная Паўнамоцная Камісія ўважае за недастатачныя матывы дзеля зачыненьня Аддзелаў Т-ва і закід, што некаторыя сябры гэтых аддзелаў займаюцца палітычнаю працаю. У скрайнім прыпадку даволі было-б толькі завесіць Аддзел на нейкі час, але зачыненьне Акружнай Управы ці Гуртка дзеля браку вымаганых фармальнасьцяў ці неадпаведнага захаваньня сяброў Аддзелаў, за што яны павінны нясьці адказнасьць асабіста, Дачасная Паўнамоцная Камісія лічыць жорсткім ударам і незаслужанымі рэпрэсіямі адносна беларускіх культурна-асьветных устаноў, твораных з вялікімі высілкамі і ахвярнасцяй нашага народу“.

За згоднасьць з арыгіналам
(—) Я. Шнаркевіч.

# Крыху аб програме лектуры.

Здаецца, што ня можа быць ніякае спрэчкі аб тым, што наша школа мусіць ня толькі даваць сваім вучням пэўную веду, але і ўзгадоўваць іх, кшталтаваць іх душы ў мысьль высокіх агульналюдзкіх ідэалаў Волі, Роўнасьці і Брацтва, якія ад часу Вялікае Францускае Рэволюцыі, што іх абвясьціла, зусім ня ўтрацілі сваей павагі. І калі слова настаўніка, што мінае і забываецца, можа ў гэтым кірунку зрабіць вельмі багата, дык тым балей дзеець на душы моладзі прыклад, жывы ўзор, які дае вучням добрая кніжка, мастацкі літэратурны твор, пранікнены гуманітарнымі ідэямі. Вось чаму хочацца мне тут зьвярнуць увагу і пэдагогаў, і бацькоў на неабходнасьць адпаведнага падбору лектуры для моладзі, адпаведнага ўкладаньня каталёгу школьнае бібліятэкі.

У офіцыяльных праграмах школьнае лектуры праводзіцца тая думка, што вучань мусіць няўхільна прачытаць усе кніжкі. якія характэрызуюць разгляданых на лекцыях літэратуры аўтараў. З пункту гледжаньня пэдагогікі гэта абсолютна правільна, бо нельга знаёміцца з літэратурай выключна паводле падручніка, ня маючы беспасярэдняга ўражаньня ад творчасьці данага аўтара. Але задачы школы не абмежываюцца вывучэньнем літэратуры: як сказана на пачатку, школа мусіць і ўзгадоўваць моладзь. Дык да слушнага становішча офіцыяльных праграмаў школьнае лектуры неабходна ўвясьці коррэктыў— дапаўненьне: комплектаваць школьныя бібліятэкі так, каб пры чытаньні кніжак з іх у вучняў выраблялася ідэолёгія ў сказаным людзкім духу. каб яна была ў згодзе з імкненьнямі нашых працоўных масаў — галоўнае складовае часьці беларускага вараду.

Тут гожа крыху глыбей унікнуць у тую ролю, якую іграе ў галіне ўзгадаваньня чытаньне кніжак. Ня будзе парадоксам, калі скажам, што гэроі літэратурныя, гэтыя творы фантазіі пісьменьнікаў, прадстаўляюцца нам больш рэальнымі, чым уся тая маса рэальных жывых людзей, з якімі мы разам жывем і што-дня сустракаемся. Бо-ж, запраўды, памастацку намаляваны гэрой повесьці або раману раскрываецца перад намі ў сваім духовым жыцьці, у сваім фармаваньні—да канца, пад той час, як рэальных людзей мы бачым толькі звонку, толькі ў пэўных абмежаных акалічнасьцях, якія далёка не заўсёды выяўляюць іх духовы склад гэтак поўна і глыбака, як у літэратуры. І нашыя выабражэньні аб жыцьці больш грунтуюцца на літэратурных апісаньнях яго, чым на ўласных назіраньнях — асабліва ў маладыя гады. Можна сказаць, што навакол нас — у нашым выабражэньні — ўперамешку з жывымі людзьмі жыве нейкі другі сьвет людзей выдуманых, якіх мы часта любім ці ненавідзім шмат сільней, чым жывых людзей. І гэтыя выдуманыя людзі з кніжкі маюць тую перавагу над людзьмі жывымі, што яны—несьмяротныя, хоць-бы тварцы іх і паўмíралі даўно-даўно. Несьмяротныя — бо пры кожным паўторным чытаньні аб іх яны ўсё больш рэльефна нам прадстаўляюцца, набіраюць жыцьця, а адыйшоўшыя ад нас запраўды жывыя калісь людзі ў адлежнасьці часу губляюць свой яркі некалі воблік...

Ад падбору лектуры залежыць, якімі літэратурнымі тыпамі мы акружым моладзь, каго з іх дамо ёй за прыяцеляў, каго — за ворагаў. І калі прыпадкова сустраканыя жывыя людзі, якіх бачым адно ўрыўкамі, аказваюць на нас бясспрэчны ўплыў, дык і пагатоў таго пэрсонажы літэратурныя, якія паказваюць нам сваю душу да дна, якія нічога з сябе ад нас ня ўкрываюць.

Папробуйце прыпомніць уплыў на вас у маладыя гады вашы, прыкладам, гэрояў Бічэр-Стоў („Хата дзядзькі Тамаша"), або д'Адмічыса („Сэрцэ"). Прыпомніце, як запалівала вас барацьба за нацыянальнае вызваленьне і гэрoi яе ў Іокайя („Парушым зямлю ў падставах яе"), як магутна будзіў у вас жаданьне вызваліць Чалавека з рабства Спартак у „Авадні". А ці ёсьць гэтыя кніжкі ў офіцыяльных праграмах школьнае лектуры? Здаецца, што не...

Затое ў гэных праграмах на першым месцы стаіць „Трылёгія Гэнрыка Сенкевіча", прапітаная наскрозь ненавісьцяй і пагардай пана да мужыка, паляка—да казака. Затое знойдзеце там „Сям'ю Поланецкіх" таго-ж аўтара—з апотэозам гэшэфтсмахерства і клясавага самагубства. І шмат, шмат знойдзеце тамака падобнага, што рэзка пярэчыць усім натуральным парываньням моладзі да высокіх людзкіх ідэалаў, асабліва моладзі беларускай —дзяцей працоўных сялян і работнікаў.

Вось чаму так патрэбны паважныя коррэктывы да офіцыяльных праграмаў школьнае лектуры — асабліва для нашае беларускае моладзі: бо-ж ідэалам нашага адраджэнскага руху, гэтак хораша высказаным Янкай Купалай у яго вершугімне „А хто там ідзе?", ёсьць:

„Людзьмі звацца!"

Праўда, у беларускай мове мала маем гэткіх кніжак — па-за нашай орыгінальнай літэратурнай творчасьцяй, дзеля розных "незалежных" прычын не заўсёды даступнай для моладзі... Праўда і тое, што апрацаваная Беларускім Выдавецкім Т-вам праграма перакладаў з чужых літэратур дагэтуль ня выпаўнена з прычыны фінансавых труднасьцей. Дык трэба карыстацца пасрэдніцтвам чужых моваў, у якіх гэткія кніжкі ёсьць: польскай, расейскай, — пакуль ня прыдбаем усяго патрэбнага ў нашай роднай мове. А перад усім трэба, каб нашы культурныя работнікі апрацавалі для моладзі адпаведную праграмму чытаньня, якая і служыла-б перад усім коррэктывам да офіцыяльных праграмаў дый наагул паказала-бы, чым трэба запаўняць нашы школьныя і народныя бібліотэкі.

Ясна, што зрабіць гэта найлягчэй нашым пэдагогам. І затым я і пішу гэтыя радкі для „Сям'і і Школы": так найхутчэй голас мой дойдзе туды. дзе трэба. Калі-ж праграма будзе выпрацавана, дык Беларускае Выдавецкае Т-ва і ўсе беларускія кнігарні павінны парупіцца аб тое, каб паказаныя ў праграме кніжкі — беларускія, польскія, расейскія, можна было ў іх дастаць дзеля комплектаваньня школьных і народных бібліятэк.

**А. Н.**

4 VIII. 1929 г.

# СТАТУТ

## Беларускага Профэсіянальнага Вучыцельскага Саюзу у Вільні.

### I. Назоў, мэта, сядзіба і абшар дзейнасьці.

§ 1. а) Саюз завецца: „Беларускі Профэсіянальны Вучыцельскі Саюз у Вільні".

б) Саюз мае на мэце абарону профэсіянальных інтэрэсаў і пэдагогічнае ўдасканаленьне сваіх сяброў, а таксама разьвіцьцё беларускае культуры наагул і падтрымліваньне беларускага школьніцтва ў асаблівасьці.

в) Сядзіба Саюзу — м. Вільня. Абшар дзейнасьці — Віленскае Ваяводзтва.

§ 2. Саюз мае права з захаваньнем абавязуючых праўных вымогаў закладаць і ўтрымліваць: а) Касу дапамогі для сваіх сяброў, б) бюро працы, в) бібліятэкі і чытальні, г) пэдагогічныя і эдукацыйныя курсы для вучыцялёў, д) розныя школы, дзіцячыя сады і пляцы для гульняў, е) інтэрнаты і бурсы для школьных дзяцей.

§ 3. Саюз мае пячатку ў беларускай мове: „Беларускі Профэсіянальны Вучыцельскі Саюз у Вільні.

§ 4. Таварыства Беларускага Профэсіянальнага Саюзу ў Вільні зьяўляецца асобай праўнаю.

### II. Маемасьць Саюзу.

§ 5. Маемасьць Саюзу складаецца: а) з сяброўскіх складак, б) даходаў з прадстаўленьняў, публічных лекцыяў і рэфэратаў, в) дабравольных ахвяр і субвэнцый, г) розных непрадбачаных даходаў.

### III. Сябры Саюзу, іх правы і абавязкі.

§ 6. Сябрамі Саюзу могуць быць: а) кожны вучыцель ці вучыцелька, чынныя ў беларускай школе, б) вучыцель ці вучыцелька — беларусы, працуючыя ў іншых школах, в) вучыцель ці вучыцелька—беларусы нячынныя (атрымліваючыя эмэрытуру і часова пазбаўленыя вучыцельскай працы). Першапачатковы склад Саюзу твораць яго закладчыкі. Далейшыя сябры Саюзу прыймаюцца Управаю звычайнаю большасьцю галасоў па рэкамэндацыі 2-х сяброў Саюзу.

§ 7. Кажды сябра ўносіць на карысьць Саюзу складку ў разьмеры адзін злоты месячна.

Увага: сябры, якія ня плацяць складкі ў працягу паўгоду, могуць быць выкрэсьлены пастановаю Управы з ліку сяброў Саюзу.

§ 8. Сябры Саюзу маюць права браць удзел у Агульным Сходзе Саюзу з пасыўным і актыўным правам голасу.

§ 9. Сябра можа выступіць з Саюзу, але абавязаны паведаміць аб гэтым пісьменна Управу Саюзу.

§ 10. У выпадку амаральнага паступку ці дзейнасьці, скіраванай проціў мэтаў Саюзу, выкрэсленьне з ліку сяброў Саюзу можа мець месца на падставе пастановы Агульнага Сходу большасьцю 2/3 галасоў.

### IV. Управа і Рэвізыйная Камісія.

§ 11. Управа выбіраецца штогод на Агульным Сходзе бязумоўнаю большасьцю галасоў прысутных сяброў і складаецца з 5 асобаў: Старшыні, 2-х Віцэ-Старшынь, Скарбніка і Сэкрэтара, а такжа і 3-х кандыдатаў. На гэтым-жа Агульным Сходзе выбіраецца і Рэвізыйная Камісія. Управа выбіраецца на працяг аднаго году і па скончаным годзе свайго праўленьня павінна скласьці Агульнаму Сходу справаздачу за мінулы год, пасьля чаго выбіраецца новая Управа на наступны год.

Паседжаньні Управы адбываюцца раз у месяц. Управа рэпрэзэнтуе Саюз навонкі і мае права ад імя Саюзу рабіць усялякія забавязаньні. Управа кіруе ўсімі справамі Саюзу. Скарбнік Управы вядзе дакладную рахунковасьць Саюзу і адказвае за яе перад Управаю. Сядзіба Управы— Вільня, Вострабрамская 9.

Рэвізыйная Камісія складаецца з 3-х асоб, якія і выбіраюцца на працяг аднаго году. Рэвізыйная Камісія кантралюе дзейнасьць Управы.

### V. Агульны Сход.

§ 12. Агульныя Сходы бываюць звычайныя і надзвычайныя. Звычайныя Агульныя Сходы склікаюцца кожны год першага кастрычніка. Надзвычайныя Агульныя Сходы склікаюцца: а) на жаданьне 1/3 сяброў Саюзу і б) па ініцыятыве Управы.

Да компэтэнцыі Агульнага Сходу належаць: а) выбары Управы і Рэвізыйнае Камісіі, а такжа і папаўненьне іх; б) справа выключэньня сяброў з Саюзу, б) выкананьне ўсіх спраў, якія знаходзяцца на парадку дня, г) выбары розных камісій, д) зьмена статуту і е) ліквідацыя Саюзу.

13. Дзеля правамоцнасьці пастаноў Агульнага Сходу патрэбна прысутнасьць найменш 2/3 сяброў Саюзу. Агульныя Сходы склікаюцца праз абвяшчэньне ў мяйсцовых газэтах за тыдзень перад тэрмінам Сходу.

У выпадку адсутнасьці на Агульным Сходзе належнага ліку сяброў, адбываецца ў той самы дзень, толькі гадзінаю пазьней, другі Агульны Сход, які ёсьць правамоцны пры ўсякім ліку сяброў Саюзу.

Пастановы прыймаюцца звычайнаю большасьцю галасоў, аднак-жа дзеля зьмены статуту патрэбна большасьць 2/3 галасоў.

### VI. Ліквідацыя.

§ 14. У выпадку, калі-б Саюз з якіх небудзь прычын перастаў існаваць, уся яго маемасьць пераходзіць на карысьць беларускіх культурнаасьветных інстытуцый згодна з пастановаю Ліквідацыйнага Агульнага Сходу.

Закладчыкі:

(—) Антон Луцкевіч.
(—) Вінцэнты Грышкевіч.
(—) Радаслаў Астроўскі.
(—) Алёна Лекант.
(—) Язэп Шнаркевіч.
(—) Сьв. Аляксандар Коўш.

# ХРОНІКА

## З Віленскае Беларускае Гімназіі.

Другая палова 1928-29 шк. году прайшла ў гімназіі спакойна, заняткі йшлі ўвесь час бяз жадных бур і непаразуменьняў, якімі так адзначылася першая палова г. г. Школьная дысцыпліна ўзмоцнілася, ўзрасло даверые між вучыцялямі і вучнямі, павялічылася працаздольнасьць вучняў. Праўда, наступ на школу элемэнтаў, якім так хацелася зьліквідаваць яе, ня спыніўся, і надалей ішлі падбухторваньні ды раскідаліся ў памяшчэньні гімназіі рознага тыпу адозвы і прызывы, але ні першае, ні другое не рабіла ніякага ўражаньня на здаровадумаючых вучняў і адпадалі ад іх, як гарох ад сьцяны. Школьны год кончыўся 28/VI. 1929 г. спакойна, нармальна.

Матуральныя экзамены ў гімназіі прайшлі вельмі памысна. Усяго вучняў у 8 кл. было 13, і ўсе яны былі дапушчаны да матуральных экзаменаў. Здало экзамен 12 асоб:

1. Вайцеховіч Зьдзіслаў.
2. Грышкевіч Тамаш.
3. Каўшанка Зоя.
4. Кэпэль Юры.
5. Мілючанка Мар‘я.
6. Самахвал Сяргей.
7. Сарока Сяргей.
8. Тышкевічанка Тамара,
9. Таранда Адам.
10. Урбановічанка Ганна.
11. Ханяўка Часлаў.
12. Фёдараў Лявон.

Такім чынам здало матуру 92,4%.

Такі памысны вынік матуральных экзаменаў сьведчыць аб добрай пастаноўцы і аб высокім роўні навукі ў школе.

Апрача абітур‘ентаў гімназіі да матуральных экзаменаў былі дапушчаны яшчэ экстэрністы, быўшыя вучні В. Б. Г. і Радашкоўскай Б. Г. ў ліку 9 асоб. З іх здалі матуральныя экзамены: Асаевічанка, Пецюкевіч, Жураўлёў і Яцкевіч. Агулам Матуральная Камісія Віленскай Беларускай Гімназіі выпусьціла 16 беларускіх матурыстаў, якім адчынены дзьверы ўсіх Вышэйшых Школ у Польшчы.

Вось дзе пазытыўны вынік працы асьветнікаў.

## З Наваградзкай Беларускай Гімназіі.

Навагрудзкая Беларуская Гімназія атрымала ў мінулым 1928-29 шк. годзе правы публічнасьці і матэр‘яльнае падтрыманьне ад польскага ураду. Справы Гімназіі значна паправіліся. У канцы таго-ж 1928-29 шк. году адбыліся першыя матуральныя экзамены ў сьценах Гімназіі. Дапушчаны да экзаменаў былі 4 абітур‘енты. Здалі экзамен усе 4. Апрача гэтага пры тэй-жа камісіі здалі матуральныя экзамены два экстэрністы, з якіх адзін вучань Клецкай Беларускай Гімназіі.

Будоўля будынку пад Навагрудзкую Беларускую Гімназію. За гэтую вялікую справу ўзяліся вычыцялі Гімназіі і мясцовае грамадзянства. Створаны спэцыяльны Камітэт. Камітэт гэты зараз-жа ўзяўся энэргічна за працу. Магістрат м. Навагрудку даў пляц пад будынак. Камітэт сабраў ужо шмат ахвяр ад мясцовага грамадзянства і сялянства з вакалічных вёсак. Работы па будоўлі распачаты былі яшчэ вясной. Пачатак гэны зрабілі вучні і вучыцялі Гімназіі. Люба было глядзець, як заварушыліся лапаты і кіркі ў руках моладзі - вучняў Гімназіі, будуючых уласнымі рукамі будынак для сваей школы—для сваей будучыні, закладаючых адзін з вялікіх камянёў у фундаманьце беларускай культуры Навагрудчыны і ўсяе Беларусі. Сэрца радавалася пры відзе гэтага вялікага дзела. Вялікія заслугі ў справе пабудовы гэтага будынку прыпадаюць на долю Старшыні Камітэту, мясцовай Старасьціны пані Грыневецкай і вучыцялёў Гімназіі. Але бяз помачы ўсяго беларускага грамадзянства ня могуць яны давясьці да канца гэтай вялікай справы: кошт будынку аблічаны больш як на 200.000 зл. Дык усе як адзін памагайма ім!

## Клецкая Беларуская Гімназія.

Клецкая Беларуская Гімназія сёлета пачынае школьны год нармальна і ў свой час, як і ўсе іншыя школы.

У папярэднія гады заняткі пазьніліся, таму што школьныя ўлады затрымлівалі выдачу канцэсіі, ставячы гэта ў залежнасьць ад рожных фармальнасьцяў, якія поўнасьцяй выканаць у нашых варунках ня могуць ня толькі прыватныя, але і дзяржаўныя гімназіі. Гэтае затрыманьне канцэсіі, а ў выніку гэтага і спазьненьне школьнага году зразумела, вельмі шкодзіла нармальнаму разьвіцьцю гімназіі. Акром таго, розныя нясумленныя элемэнты і агенты, якім сольлю ў вачох зьяўляецца беларуская гімназія ў Нясьвіжскім павеце, карысталі з гэтага і распаўсюджвалі ўсялякія ілжывыя і агідныя чуткі пра гімназію.

Хоць гэтая хлусьня ня спыняецца і да сёньняшняга дня, гімназія усё-ж такі ўзмацняецца як у кірунку навукова-ўзгададаваўчым, так і ў арганізацыйным. Падняцьце навуковага роўня сьцверджана ўрадова.

Пры гэтым трэба зазначыць, што школьныя ўлады, якія беспасярэдне назіралі за жыцьцём гімназіі ў працягу некалькіх гадоў, прызналі рацыю і патрэбу істнаваньня яе ды ўжо ня ставяць перашкод для яе далейшага разьвіцьця.

Для большага пасьпеху гімназіі з боку школьных уладаў нараўне з маральнай пажадана яшчэ і матэр‘яльная дапамога, якую ўжо атрымліваюць Віленская і Навагрудзкая Гімназіі ў пастаці этатаў для вучыцялёў.

Таксама насьпела пытаньне і аб наданьні правоў публічнасьці Клецкай Белар. Гімназіі.

## З Беларускага Прафэсіянальнага Вучыцельскага Саюзу, заложанага на ўстаноўчым сходзе 9 траўня 1929 г.

Сход адчыніў Дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі гр. Р. Астроўскі, які запрапанаваў выбраць Прэзыдыюм Сходу. На старшыню выбраны гр. А. Луцкевіч і ў прэзыдыюм — гр. А. Макарэвіч, на сэкрэтара — С. Кароль. Прысутных— 15 особ.

Парадак дня: 1) Адчытаньне Статуту і справа пашырэньня дзейнасьці Саюзу на ўсю тэрыторыю Заходняе Беларусі; 2) Плян працы Саюзу; 3) Справа скліканьня агульна-вучыцельскага беларускага зьезду; 4) Справа кваліфікацыяў вучыцялёў беларускіх школаў; 5) Справа праграмаў беларускіх сярэдніх школаў; 6) Выбары Ураду Саюзу і Рэвізыйнае Камісіі; 7) Утварэньне Камісіяў; 8) Бягучыя справы.

1) Слухалі: Адчытаньне і зацьверджаньне Статуту Саюзу.

Пастанавілі: 1) Прыняць і зацьвердзіць Статут з наступнымі папраўкамі: а) пункт 1, параграф в) „пашырыць дзейнасьць Саюзу на ваяводзтвы Навагрудзкае, Палескае і Беластоцкае", прычым даручыць Управе Саюзу зрабіць адпаведныя захады перад Уладамі аб зацьверджаньні Статуту праз Ваяводаў вышэйуспомненых ваяводзтваў, б) у пункце III, парагр. 6: „Сябрамі Саюзу могуць быць: а) кажды вучыцель ці вучыцелька, чынныя ў беларускай школе; б) вучыцялі і вучыцелькі беларусы, працуючыя ў іншых школах; в) вучыцялі—кі беларусы нячынныя, эмэрытаваныя і часова пазбаўленыя вучыцельскай працы. Зьмены гэтыя ўжо зроблены праз адміністрацыю (глядзі Статут, зьмешчаны ў гэтым нумары).

3) — Аб скліканьні вучыцельскага зьезду.— Склікаць агульны зьезд сяброў Саюзу, што даручыць Управе Саюзу.

4) — Аб кваліфікацыях вучыцялёў. — Даручыць Управе Саюзу прыняць адпаведныя крокі дзеля ўзысканьня належных кваліфікацыяў для вучыцялёў беларускіх школаў.

5) — Аб праграмах беларускіх школаў. — Даручыць Управе Саюзу прыгатаваць адпаведныя даклады па гэтаму пытаньню на агульны вучыцельскі зьезд.

6) — Выбары Ураду Саюзу і Рэвізыйнае Камісіі. — На сяброў Управы Саюзу выбраны: Старшынёй гр. В. Грышкевіч. віцэ-старш. гр. Г. Якубёнак і С. Кароль, скарбнікам гр. А. Сакалова-Лекант і сэкрэтаром Я. Шнаркевіч. У Рэвізыйную Камісію выбраны гр. У. Манкевіч, М. Чатырка і А. Макарэвіч.

---

Кожны вучыцель беларус, адпавядаючы вымогам Статуту, мусіць паступіць у сябры Саюзу.

Адрас Саюзу: Вільня, Вострабрамская 9, Беларускі Профэсіянальны Вучыцельскі Саюз.

## Агульны Сход Бацькоўскага Камітэту Віленскай Беларускай Гімназіі.

25 чэрвеня г. г. ў памяшчэньні гімназіі адбыўся агульны сход бацькоў вучняў і вучаніц гімназіі. Павесткі аб вызначаным сходзе былі разасланы загадзя ўсім бацьком, як гарадзкіх дзяцей, так і правінцыяльных. Старшынёй сходу быў абабраны гр. Тышкевіч, а сэкрэтаром — гр. Сіняўскі.

Па адчыненьні сходу дырэктар гімназіі, ён-жа і старшыня Бацькоўскага Камітэту, зрабіў падрабязную справаздачу аб навукова-выхаваўчых і гаспадарчых справах гімназіі за мінулы школьны год, паведаміў аб ліку дапушчаных да матуральных экзаменаў вучняў і экстэрнаў, былых вучняў беларускіх гімназіяў, аб здавальняючых выніках памянёных экзаменаў і ўрэшце падрабязна высьветліў справу вучняў, звольненых з гімназіі ў сьнежні мінулага году і ў лютым г. г.

Дырэктар Астроўскі дзеліць гэтых вучняў на дзьве групы:

1) вучні, звольненыя па загаду Куратара Школьнага Вокругу,

2) вучні, звольненыя Пэдагогічнаю Радаю за нарушэньне школьнай дысцыпліны.

Што датычыць вучняў 1-ае групы, дык, не зважаючы на шматлікія захады і Бацьк. К-ту, і Пэдагогічнай Рады, Куратар Віл. Шк. В. ўсім вучням VI і VII кл. адмовіў у паўторным прыйме ў гімназію, згадзіўшыся толькі былых вучняў VIII кл. дапусьціць да матуральных экзаменаў экстэрнамі. Прычым, з вышэйпамянёных 3-х вучняў трымае экзамены толькі адзін—С. Жураўлёў, дзеля таго, што Бакач адбывае ваенную павіннасьць, а Таўпека, здаецца, пазбаўлены вольнасьці — сядзіць „на Лукішках".

Усіх вучняў 2-гое групы Пэдагогічная Рада дапусьціла да ўступных экзаменаў, некалькі з іх экзамены здалі і прыняты ў гімназію.

Далей дыр. Астроўскі зазнаёміў Сход з тэй неадкладнай чарговай працай і з тымі пытаньнямі, якія чым хутчэй павінны быць вырашаны, як зьвязаныя з існаваньнем гімназіі ў наст. годзе.

У канцы свайго дакладу дыр. Астроўскі заначыў, што сучаснае палажэньне, пры якім Бацькоўскі Камітэт, складзены пераважна з пэдагогаў, а ён сам зьяўляецца адначасна і дырэктарам гімназіі, і старшынёй Бацькоўскага Камітэту, ён лічыць непажаданым і дзеля гэтага падае да ведама Сходу пастанову прэзыдыюму Бацьк. К-ту, якою К-т у поўным складзе падае ў адстаўку, не зважаючы на тое, што паўнамоцтвы яго канчаюцца толькі 1. X. 29 г., і дзеля гэтага просіць Сход выбраць новы прэзыдыюм.

У новы камітэт выбраны: гр. гр. Тышкевіч, Галяк, Быхаўцова, Сакалова-Лекант і Багдановіч.

Апошні, атрымаўшы толькі на адзін голас балей за гр. Сіняўскага, праслаў праз некалькі дзён адмову, і ў склад новага Бацьк. Кам. ўвайшоў гр. Сіняўскі.

Ніхто з пэдагогаў, дзеці якіх вучацца ў гімназіі, не згадзіўся ўвайсьці ў склад Бацьк. Кам. за выняткам гр. Сакаловай, якая ўвайшла ў яго па гарачай просьбе вучыцялёў і бацькоў для лучнасьці Бацьк. Кам. з Пэд. Радай.

Далей ад імя Рэвізыйнай Камісіі зрабіў даклад аб грашовых справах б. Бацьк. Кам. гр. Багдановіч, які, далікатна кажучы, ушыўся ў гэтую справу неяк „саматугам". І запраўды, даволі дзіўна выглядае, што гр. Багдановіч, ня будучы абраным Агульным Сходам ні ў сябры Рэвізыйнай Камісіі, ні ў яе кандыдаты, 10 чэрвеня г. г. зрабіў сам сябе старшынёй Рэвізыйнай Камісіі, а 17 чэрвеня падпісаў пратакол (бо запраўдныя сябры

Камісіі не падпісалі яго), якім сам сябе самазванна ўпаўнамочыў быць рэвізорам Бацьк. Камітэту.

З дакладу Рэвізыйнае Камісіі Сход даведаўся, што грашовая справаздача і касавая кніга гімназіі Камісіяй знойдзены ў поўным парадку, прыходныя і расходныя пазыцыі правільныя і з прадстаўленымі дакумэнтамі згодныя, аб чым і зроблены адпаведныя надпісы ў касавых кнігах і падпісаны сябрамі Камісіі гр. гр. Падагелем і Радзюком.

Заслухаўшы даклад Старшыні Камітэту грам. Астроўскага і справаздачу Рэвізыйнае Камісіі. Бацькоўскі Сход аднагалосна пры 1 устрымаўшымся вынес папярэдняму Прэзыдыюму Бацькоўскага К-ту шчырую падзяку за яго працу над захаваньнем гімназіі.

У канцы дырэктар Астроўскі паведаміў Сход, што ён адмаўляецца быць дырэктарам гімназіі на наступны год і дзеля гэтага просіць Бацьк. К-т загадзя пастарацца знайсьці новага дырэктара. Заслухаўшы заяву гр. Астроўскага, Агульны Сход зьвярнуўся да апошняга з просьбаю застацца надалей дырэктарам гімназіі, але, спаткаўшыся з паўторнаю рашучаю адмоваю, даручыў новаабранаму Прэзыдыюму ўрэгуляваць гэтую справу.

На гэтым паседжаньне закончана.

М. С.

## Справа Дырэктара В. Б. Г.

Кожнаму хіба ведама, колькі нападкаў і рознага бруду было кінута ў мінулым годзе на дырэктара В. Б. Г. Р. Астроўскага ад розных „дзеячоў“ і „паддзеячоў“. Аднак, ён спакойна вытрымаў на сваім пасту да канца шк. году і ня толькі не дапусьціў да ліквідацыі школы, але зусім паставіў яе на ногі і ў сэнсе матэр'яльным, і навуковым. З канцом школьнага году, калі гімназіі ўжо нічога не пагражала, лічучы, што справу давёў да канца і не патрабуе болей знасіць зьвягу „дзеячоў“, дырэктар Астроўскі адмовіўся ад пасады дырэктара. Гэта адмова была зроблена на сходзе бацькоўскага камітэту. Ужо тады з усіх бакоў узьняліся просьбы прысутных на сходзе аб тым, каб дырэктар Астроўскі не адмаўляўся. Але пазьней справа гэта стала яшчэ больш актуальнай, бо-ж сябры бацькоўскага камітэту, а між імі былі і „дзеячы“, яшчэ нядаўна кідаўшыя балотам на гр. Астроўскага, пабачылі, што не знайсьці ім ніяк дырэктара, які-б мог замяніць гр. Астроўскага, і на апошнім сваім сходзе яны не знайшлі іншага вырашэньня справы Дырэктара В. Б. Г., як паноўны выбар гр. Астроўскага, без яго згоды. (На сходзе ён ня быў прысутным). З вялікімі высілкамі прадстаўніком бацькоўскага камітэту ўдалося дабіцца згоды гр. Астроўскага на зроблены выбар. Дык, як бачыце, і „дзеячы“ і ўсе тыя, што яшчэ нядаўна кідалі балотам на гр. Астроўскага, як дырэктара В. Б. Г., апынуліся ў прыкрай сытуацыі.

## Зьмены ў вучыцельскім пэрсонале В. Б. Г.

У гэтым годзе з складу вучыцялёў выбываюць: п. Выслоух, асыстэнт права пры Віленскім Унівэрсытэце, вучыцель гісторыі Польшчы і навукі аб Польшчы, і п. Александровічова, вучыцелька польскай мовы. Першы пакінуў Гімназію з прычыны навалу працы на Унівэрсытэце, другая ўзяла гадавы вотпуск з мэтай дабыцьця поўных вучыцельскіх кваліфікацыяў. Хто будзе заступаць выбыўшых, яшчэ ня ведама. Магчымы яшчэ зьмены ў складзе вучыцельскага пэрсоналу В. Б. Г.

## Справа памяшчэньня Віленскай Беларускай Гімназіі.

У гэтым годзе скончыўся кантракт з праваслаўнай Кансісторыяй, да якой перш належаў будынак, у якім месьціцца Гімназія. Дзеля гэтага канцэсіянэр Гімназіі змушаны быў зьвярнуцца да Дырэкцыі публічных работ, да якой належыць цяпер гэты будынак. Справа ўжо палагоджана. Гімназія застанецца ў тым-жа будынку на варунках, устаноўленых урадова для ўсіх, хто займае памяшчэньні ў будынках Дырэкцыі.

## Нашы юбілеі.

На гэты год прыпадаюць два вялікія юбілеі: 400-я ўгодкі Літоўскага Статуту (першая рэдакцыя ў 1529 г.) і 10-я ўгодкі сьмерці павадыра беларускага адраджэньня Івана Луцкевіча (памёр 20. VIII. 1919 г.). Юбілеі гэтыя адзначаць, бязумоўна, абходамі усе беларускія культурна-асьветныя ўстановы, у тым ліку і Віленская Беларуская Гімназія, а тымчасам у дзень сьмерці Ів. Луцкевіча адбыліся жалобныя модлы, адпраўленыя ў касьцеле сьв. Мікалая і Пятніцкай царкве

У наступным нумары „Сям'і і Школы“ зьмешчаны будуць артыкулы, прысьвячоныя ўспомненым юбілеям.

## Дэлегацыя Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы ў Віленскага Ваяводы.

Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы, которая складаецца, як ведама, з наступных асоб: 1) старшыні Фэлікса Стэцкевіча, сяброў: 2) Марцінчыка Мікалая, 3) Кэпэля Мітрафана; 4) Пяткевіча Міхала, 5) Дварчаніна Ігната, 6) Валынца Флегонта, 7) Шырмы Грыгора, 8) Пяткуна Пётры, 9) Гаўрыліка Язэпа, 10) Грэцкага Язэпа, 11) Крынчыка Паўла і 12) Кізевіча Піліпа, пераняўшы кіраўніцтва Т-ва з рук Дачаснае Паўнамоцнае Камісіі, паслала сваю дэлегацыю да Віленскага Ваяводы; аб гэтай дэлегацыі польская газ. „Słowo“ з дня 15. VIII. падае наступную інфармацыю:

„Зьмена ор'ентацыі Т-ва Белар. Школы.

Даведываемся, што ў апошніх днях п. віцэваявода Кіртікліс прыняў дэлегацыю Т-ва Беларускае Школы ў асобах п.п. Стэцкевіча, Шырмы і Паўловіча.

Дэлегацыя, падкрэсліваючы сваю лёяльнасьць да Гаспадарства і Ураду, прасіла аб падтрымоўваньне пачынаньняў Т-ва Белар. Школы, каторыя будуць мець выключна характар культурна-асьветнае працы.

П. віцэваявода з націскам зазначыў выраз-

1929/1930 школьны год.

# Віленская Беларуская Гімназія

**Васьмёхклясовая гімназія, гуманістычнага тыпу з беларускаю выкладоваю мовай,**

## з правамі урадовых польскіх гімназіяў.

Адкрыта прыймо заяваў у 1, 2, 3, 4, 5, 6 і 7 клясы, а ў 8-ую кл. вучні могуць быць прыняты толькі з дазволу Куратор'юму Віл. Шк. Вокр. Прымаюцца хлапцы і дзяўчаты.

УВАГА: тыя вучні-цы, якія пажадаюць перавесьціся ў Віленскую Беларускую Гімназію з другіх не беларускіх гімназій, павінны трымаць экзамен з беларускай мовы, гісторыі і географіі Беларусі ў абыйме папярэдніх клясаў.

УЗРОСТ ПАСТУПАЮЧЫХ: у I кл ад 9½ да 12 гадоў, у II кл. 10½—13, у III кл. 11½—14 гад., у IV кл 12½—15 гад., у V кл 13½—16 гад., у VI кл. 14½—17 гад. і ў VII кл. 15½—18 гад.

УВАГА: дзеля асобных абставінаў прымаецца пад увагу перарост паступаючых, але найбольш да 2-х гадоў.

УСТУПНАЯ ПЛАТА: кожны паступаючы, адначасна з просьбаю аб прыйме, незалежна ад клясы, у якую паступае, павінен унесьці ўступную плату ў канцэлярыю гімназіі ў разьмеры 10 зл.

ПЛАТА ЗА НАВУКУ: у I кл.—20 зл., у II кл.—30 зл., у III кл.—40 зл., у IV кл.—60 зл., у V кл.—70 зл., у VI кл.—80 зл., у VII кл.—90 зл., у VIII кл.—110 зл. **у паўгодкі.**

ЗАЯВЫ аб паступленьні ў гімназію прыймаюцца штодзенна (апрача субот і сьвят) ад 10-ай да 14-ай гадз. Заявы можна пасылаць і поштай, прыкладаючы паштовых марак на 25 гр. на адказ.

УВАГА: да заявы аб прыйме абавязкава трэба далучыць 1) мэтрыку аб нараджэньні, 2) пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы і 3) пасьведчаньне аб папярэдняй адукацыі. Ад тых, якія паступаюць з хатняй падгатоўкай, вымагаецца, замест школьнага пасьведчаньня, пасьведчаньне бацькоў, ці ксяндза або сьвяшчэньніка, аб тым, што вучыўся дома.

**Пачатак уступных экзаменау — 3-га верасьня.**

Пры гімназіі для жадаючых ёсьць інтэрнат з платай па 50 зл. у месяц. Тыя вучні, якія добра будуць вучыцца ў працягу І-ых паўгодкаў, могуць атрымаць стыпэндыю Дабрадзейнага Т-ва. Інтэрнат толькі для хлапцоў.

**Адрэс: г. Вільня, Вострабрамская вул. № 9.**

*Дырэкцыя Гімназіі.*

1929 / 1930 школьн. год

# Наваградзкая Беларуская Гімназія

**Васьмёхклясовая Гімназія прырода-матыматычнага тыпу з беларускаю выкладоваю мовай,**

## з правамі урадовых польскіх гімназіяў.

Адкрыта прыймо заяваў у 1, 2, 3, 4, 5, 6 і 7 клясы, а ў 8-ую клясу вучні (-цы) могуць прыняты быць толькі з дазволу Куратор'юму Віл. Шк. Вокр. Прыймаюцца хлапцы і дзяўчаты.

УВАГА: Тыя вучні-цы, якія пажадаюць перавесьціся ў Наваградзкую Гімназію з другіх, небеларускіх гімназіяў, павінны трымаць экзамен з беларускае мовы, гісторыі і географіі Беларусі ў абыйме папярэдніх клясаў.

УЗРОСТ ПАСТУПАЮЧЫХ: у I кл. ад 9½ да 12 гадоў, у II кл. 10½—13 гадоў, у III кл. 11½—14 гад., у IV кл. 12½—15 гад., у V кл. 13½—16 г., у VI кл. 14½—17 гад. і ў VII кл. 15½—18 г.

УВАГА: дзеля асобных абставінаў прыймаецца пад увагу перарост паступаючых, але ня больш як да 2-х гадоў.

Заявы аб паступленьні ў Гімназію прыймаюцца што дня. Заявы можна пасылаць і поштай, прыкладаючы паштовых марак на 25 гр. на адказ. Да заявы аб прыйме абавязкава трэба далучыць: 1) мэтрыку аб нараджэньні, 2) пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы і 3) пасьведчаньне аб папярэдняй адукацыі. Ад тых, якія паступаюць з хатняй падгатоўкай, вымагаецца, замест школьнага пасьведчаньня, пасьведчаньне бацькоў, ксяндза ці сьвяшчэньніка аб тым, што вучыўся дома.

Усе падробныя інформацыі ў справе паступленьня можна атрымаць у канцэлярыі гімназіі. Адрэс:

**м. Наваградак, Беларуская Гімназія.**

**Дырэкцыя Гімназіі.**

ную лінію і прыхільнае становішча Урадовых дзейнікаў адносна культурнае працы меншасьцяў у Гаспадарстве, узалежняючы сваё падтрыманьне ад поўнай незалежнасьці і адсэпараваньня Т-ва Беларускае Школы ад выбратовых уплываў. Дэлегацыя абяцала прытрымоўвацца вышэйсказанага".

Ад Галоўнае Управы ў нашу рэдакцыю ніякія інфармацыі аб гэтай справе не паступілі.

### Да ведама беларускага грамадзянства.

Коопэратыў „Spółdzielca", які папярэдняе няўдалае кіраўніцтва з пад сьцягу радыкальных паслоў хацела ўжо ліквідаваць, перавыбраў новы ўрад, у які ўваходзяць і некаторыя з вучыцялёў Віленскае Беларускае Гімназіі. Коопэратыў ужо зусім аправіўся і разьвіваецца памысна. Крама № 1 перанесена з Тэатральнай вуліцы на больш дагоднае для разьвіцьця яе месца, на Кальварыйскую вуліцу, дзе жыве шмат работнікаў — беларусаў.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны гр. Рэдактар!*

Прыймаючы пад увагу, што ў № 3 газ. „Сьвет" з дня 6 ліпня г. г. надрукованы былі непраўдзівыя весткі, датычачыя Агульнага Сходу Бацькоўскага Камітэту Віленскае Беларускае Гімназіі з 25. VI. 1929 г., гэтым просім рэдакцыю зьмясьціць у Вашым паважаным журнале наступнае спраставаньне:

1) Няпраўда. што на прапазыку сябры Каўша аб просьбе, зьверненай да гр. Астроўскага застацца надалей Дырэктарам Віленскай Беларускай Гімназіі, „Сход адказаў маўчаньнем".

2) Праўда, што Сход аднагалосна прасіў гр. Астроўскага застацца надалей Дырэктарам Віл. Бел. Гімназіі, але апошні катэгарычна адмовіўся,

3) Праўда, што Бацькоўскі Сход аднагалосна пры 1 устрымаўшымся вынес папярэдняму прэзыдыюму Бацькоўскага Камітэту падзяку за працу яго над захаваньнем Гімназіі.

За Старшыню Камітэту (—) *І. Галяк.*
Сэкрэтар (—) *А. Сакалова-Лекант.*

33. **Агрэном Я. Пачопка.** Як выбіраць добрага каня. Выд. Бел. Радык. Народ Партыі. Цана 0,60 гр.

34. **А. Васіленя.** Залажэньне спажывецкага каапэратыву на вёсцы. Выданьне аўтара. Цана 0,10 гр.

35. **М. Манцэвіч.** Як залажыць спажывецкі каапэратыў. Выд. аўтара. Цана 0,10 гр.

36. **Хірамант Васілеўскі.** Беларускі Соньнік. Наклад аўтара. Цана 1 зл.

37. **Васілёк Міхась.** Шум Бараны. Выд. Р. Шырмы. Цана 1 зл. 50 гр.

38. **Х. Ільяшэвіч.** Веснапесьні. Выд. Н. Ільяшэвіч. Цана 1 зл

39. **Д. Д. Дыфоў.** „Робінзон Крузо" з 18 малюнкамі. Выд. Я. Станкевіча. Цана 1 зл. 70 гр.

40 **Улад. Ініцкі.** „Клім Бабаю" і інш. жарты. Выд. Знамероўскага. Цана 45 гр.

41. **Г. В. Плеханаў.** Асноўныя пытаньні марксізму. Выд. Белар. Сял.-Раб. Пасольскага Клюбу. Цана 2 зл.

42. **Колас Якуб.** Новая Зямля. Поэма. Кніга I. Адбітка з „Народу". Цана 1 зл 50 гр.

43. **Колас Якуб.** Новая Зямля. Кніга II. Цана 80 гр.

44. **Колас Якуб.** Новая Зямля. Кніга III. Цана 1 зл. 50 гр.

45. **Б. Друцкі-Падбярэзкі.** „Падручны Беларуска-Польскі Слоўнік" 15.000 беларускіх слоў гражданкай і лацінікай. Віленскае Выдавецтва Б. Клецкіна. Цана 7 зл.

## СЦЭНІЧНЫ АДДЗЕЛ.

46. **Янка Купала.** На Куцьцю, абразок у 1 акце. Інсцэніроўка М. Шчэнсновіча. Апрацоўка Рады Т-ва Прасьветы. Цана 0,20 гр

47. На Полацкім Замчышчы (казачная фээрыя). Інсцэніроўка Оф. Сахаравай з п'есы Янкі Купалы „Сон на кургане". Цана 0,60 гр.

48. **М. Крапіўніцкі.** Па рэвізіі, камэдыя ў 1 дзеі.
**К. Каганец.** Модны шляхцюк, п'еса ў 1 дзеі. Выд. Т-ва Белар. Школы. Цана 0,60 гр.

49. **М. Крапіўніцкі.** Пашыліся ў дурні, жарцік у 3 дзеях. Выд. Т-ва Бел. Школы. Цана 0,60 гр.

50. **Аляхновіч.** Дзядзька Якуб, драмат. абраз. у 2 акт.
**Долецкі.** Міхалка, абраз. у 1 акце.
**Чужынін.** Пярэстая красуля, жарт у 1 акце. Выд. Бел. Выд. Т-ва. Цана 1 зл. 30 гр.

51. **Ігароў Ю.** „Сірата". Сцэнічны абразок у 1 дзеі. Пераклад З. Верас. Цана 0,20 гр

## МУЗЫКАЛЬНЫ АДДЗЕЛ.

52 „Лугам, лугам зеляненькім", сл. Ясара, муз. Чайкоўскага з акомп. фортэп'яны. Выданьне Бел. Выд. Т-ва. Цана 1 зл. 20 гр.

53. Беларускія Народныя Песьні. Сабраў і выдаў Г. Шырма. Вупуск першы. Цана 5 зл.

## РОЗНЫЯ КАЛЕНДАРЫ
### на 1930 год.

**Беларускае Выдавецкае Таварыства**

АНТ. НАВІНА (А. Луцкевіч).

# Адбітае Жыцьцё

Лекцыі і стацьці з беларускае адраджэнскае літэратуры.

КНІЖКА ПЕРШАЯ.

Зьмест: Ад аўтара.—Істота літэратуры і яе грамадзкае значэньне.—Эволюцыя беларускае адраджэнскае ідэолёгіі і адбіцьцё яе ў літэратуры. – Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.). — Якуб Колас. — Напевы ліры Янкі Купалы.—Максім Багдановіч. – Проблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча.—Ідэолёг народнае інтэлігенцыі (Максім Гарэцкі).—Водгукі вялікае вайны. — На новых шляхох. — „Пад сінім небам". Характэрыстыка творчасьці Натальлі Арсеневай.—„Бунт проці Бога".—Вільня ў беларускай літэратуры.— Жыдоўскае пытаньне ў нашым пісьменстве. Цана 3 зл.

Выдавец: Бацькаўскі Камітэт Віленскае Беларускае Гімназіі. Рэдактар: В. Грышкевіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.